


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

8 сакавіка 2002 года
№ 10 (359)
Выходзіць па пятніцах

ТУ плюс

## Навіны рэгіёна



*Мілыя, дарагія і заўжды любімыя жанчыны!*

*Віншуем вас з 8 Сакавіка — днём вясны, мар, надзей на лепшае.*

**Ад імя ўсіх мужчын — «Рэгіянальная газета».**

## Прэмія за зборнік вершаў

**ВАЛОЖЫН**. Настаўніца Пяршайскай СШ Ядвіга Кужоўнік загадам міністра культуры заахвочаная дзяржаўнай стыпендыяй на 2002 год. Кожны месяц яна дадаткова будзе атрымліваць па 4 мінімальныя зарплаты.

Стыпендыю яна атрымала за паэтычны зборнік "Абмыты чэрвеньскім дажджом", які цяпер рыхтуецца да друку. Гэта першы зборнік паэткі. У ім сабраныя, у асноўным, лірычныя творы.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Прэміі медыкам

**МАЛАДЗЕЧНА**. У аўторак у актавай зале медвучылішча ўзнагароджвалі пераможцаў рэспубліканскага конкурсу навуковых работ за 2000-2001 навучальны год.

Лаўрэатамі сталі 21 навучэнец сярэдніх медыцынскіх навучальных установ. Сярод іх – дзве выпускніцы маладзечанскага медвучылішча – **Таццяна Скурко** і **Наталля Карпец**.

Пяцёра атрымалі першую прэмію – па 100 тысяч рублёў, па восем чалавек – другую і трэцюю – па 80 і 70 тысяч рублёў адпаведна. Усе атрымалі ў падарунак самавары, кнігі па медыцыне на англійскай мове, значкі і кодэкс медыцынскай сястры.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Кола ад грузавіка забіла мужчыну

**МЯДЗЕЛ**. Трагедыя адбылася ў мінулую пятніцу каля аўтобуснага прыпынку «Зубраня». Купка людзей з Нарачанскага лясніцтва чакала там аўтобуса. Раптам на іх паляцела кола з калодкай. Яно адляцела ад грузавіка, што рухаўся па дарозе. Тры чалавекі разбегліся, а адзін ляснік хацеў ухіліцца. Адразу атрымалася – кола прайшло міма, але потым яно ўдарылася ў слупок адзаду і патрапіла ў мужчыну. Ад пашкоджанняў той памер.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



## Адмена электрацягнікоў

11, 12, 14 і 15 сакавіка адмяняецца электрычка Маладзечна-Мінск адпраўленнем з Маладзечна ў 14-54 і прыбыццём у Маладзечна ў 14-14.

8 і 9 сакавіка электрацягнікі на ўчастку Мінск-Маладзечна ідуць, як па суботах, а 10 сакавіка – як па нядзелях.

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 9 сакавіка

**Мінск**

0°С (уначы)
5°С (удзень)

**Вільня**

0°С (уначы)
5°С (удзень)

Нядзеля, 10 сакавіка

**Мінск**

1°С (уначы)
7°С (удзень)

**Вільня**

3°С (уначы)
6°С (удзень)

# Хлеб ад Кухальскай

**МЯДЗЕЛ. Жыхарку вёскі Канстанцінава, што ў Слабодскім сельсавеце, Яніну Кухальскую зусім не хвалюе, колькі сёння каштуе хлеб – яго жанчына пячэ сама.**

**– Яніна Іванаўна, а чаму гэтым заняліся?**

– Я люблю ўсё сама рабіць, ды і танней так выходзіць. З паўтара кілаграма мукі тры буханачкі спяку. А мяшка мукі ці не на цэлы год хапае.

**– Калі ўпершыню хлеб выпеклі?**

– Вой, даўно. Заўсёды, калі дома жыла, мама пякла, толькі не ў формах, а на лапаце. І я гэта ўсё умела.

**– А хлеб такі самы, як тады, атрымліваецца?**

– Пэўна, такі самы. Толькі дома ліст дубовы ці кляновы клалі на лапату, пасыпалі яго крышку мучыцай, тады цеста на лапату – і ў печ.

**– Цяпер ці часта хлеб выпякаеце?**

– Калі госці прыходзяць, то штотыдзень, а калі няма – раз на два тыдні. Наогул, Яніна Кухальская ў мясцовую краму рэдка заходзіць. Дзеці прыпасаў прывязуць, ды і сваіх багата: і памідоры, і перац, і грыбкі. А пра іх размова асобная: выдатны грыбнік яна. Хоць і цяжка поўныя кошыкі несці (73 гады ўжо), але так цягне ў лес! Ды і гаворыць, што не можа без работы. І гаспадарка ёсць, і развядзеннем кветак захапляецца: «На мой дзень нараджэння, на Яна, як расквітнеюць вакол хаты, нягожна нацешыцца. Пачне цямнець – яны як зорачкі свецяць». А калі ўжо прысядзе, то і тут занятак знойдзе: вяжа.

**– Не хочацца адпачыць, як у горадзе, на лавачцы пасядзець? – пытаюся.**

– Не. Я сама гарадская, з-пад Навагрудка. Адразу цяжка было прывыкнуць у вёсцы, а цяпер у горад не згаджуся ехаць. У мяне ўсё тут сваё, і верны сябра ёсць – сабака, і лес.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Вось які хлеб выпякае Яніна Кухальская. *Фота Алеся ВЫСОЦКАГА*

■ ПОГЛЯД МУЖЧЫН

## Якія кветкі вам падабаюцца?



**Сяргей Бялкоў, дырэктар турклуба "Пілігрым", Маладзечна:**

– Розныя кветкі. Галоўнае, каб дарылі. Сёння жонка атрымае добрую ружу, нягледзячы на тое, што кветкі дарагія.



**Сяргей Буркевіч, аператар сушыльнай камеры, Маладзечна, з сынам Дзімам:**

– Чырвоныя ружы. Калі мужчына выбірае кветкі, ён кіруецца досведам сямейнага жыцця. Я жыву з жонкай не першы год, таму ведаю яе густ.



**Уладзімір Макей, інспектар энергаnагляду, Валожын:**

– Маёй жонцы падабаюцца чырвоныя ружы. Такія ж і на свята атрымае. Увогуле, кветкі – гэта прымета кахання.



**Міхаіл Кабаеў, навучэнец палітэхнікума, Маладзечна:**

– Не ведаю. Сваёй дзяўчыне падару ружу.

**Апытанне падрыхтавала Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Астапкіна-2002

**ВІЛЕЙКА. 1 сакавіка ў Доме культуры прайшоў агляд мастацкай самадзейнасці пад назвай "Астапкіна-2002".**

Удзельнічалі рок-групы "Акно" і "Парламент", квартэт "Суквецце", ансамбль народнай песні "Бабіна лета" і іншыя калектывы. Мерапрыемства праводзілася з нагоды штогадовай абласной праверкі.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Народных большае

**МЯДЗЕЛ. Ансамбль песні «Скарбніца» з Мядзельскага ГДК і вакальны квартэт «Натхненне» дзіцячай музычнай школы райцэнтра атрымалі званне «народны».**

Такія вынікі прынес абласны агляд. Мець такое званне не толькі ганарова, але і дазваляе больш сур'ёзна заняцца творчасцю (прыкладам, могуць уводзіцца новыя штатныя адзінкі). Дагэтуль у раёне было чатыры калектывы са званнем «народны».

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Выпіў і паляцеў

МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак 28-гадовы жыхар дома па вуліцы Ф. Скарыны вываліўся з 9-га паверха лесвічнай пляцоўкі. Як высветліла следства, ён быў нецвярозы і загінуў з-за неасцярожнасці.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ТЭАТР

# «Хацеў бы сыграць камедыйную ролю»

**МАЛАДЗЕЧНА. 15-гадовы вучань СШ №2 Дзіма Свірыда, на першы погляд, жыве звычайным жыццём. Ходзіць у школу, потым спяшаецца ў "музыкалку", дзе іграе на акардэоне. Любіць футбол і хварэе за італьянскі "Мілан".**

Але аднойчы прыйшоў дадому з цікавай прапановай бацька – **Міхаіл Свірыда**. На прадпрыемстве Беларускага таварыства інвалідаў па зроку, дзе ён працуе ўжо 25 год, існуе аматарскі драматычны гурток. Яго кіраўнік і мастацкі рэжысёр **Мікалай Мацкевіч** прапанаваў паставіць меладраму ў двух дзеях "Кім" Аляксея Дударава. На галоўную ролю Кіма спрабаваўся Міхаіл Свірыда, але рэжысёр вырашыў, што патрэбны падлетак. Так бацька запрасіў на пробы сына.

Успамінае Дзіма:

– Гэта было так нечакана. Пачытаў па ролях, ён казаў: "Нічога. Добра. Хлопец – з характарам". Але з-за адсутнасці на прадпрыемстве ўстаноўкі для паказу слайдаў, якія патрабаваліся па сцэнары, вырашылі паставіць меладраму ў Мінскім абласным драматычным тэатры. Чатыры месяцы рэпеціравалі, пасля – прэм'ера. Вельмі хваляваўся. Калі выйшаў на сцэну, нікога не бачыў. А ў зале былі і бацькі, і аднакласнікі. Потым сказалі мне: "Класна сыграў!", а некаторыя нават і аўтографы папрасілі. Гэта быў цудоўны час. Цікавыя і добрыя людзі, розныя вясёлыя выпадкі. Вось, напрыклад, калі па сцэнарыі я гаварыў: "Я ваш сын!", над сцэнай выбухнула лямпачка. Добра тады спалохаўся. У кастрычніку 2001 года ездзілі ў Гродна на Другі рэспубліканскі фестываль творчай моладзі "Надзея-2001". Паказвалі "Кім".



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Выканаўца ролі Кіма ў аднайменнай пастаноўцы Мінскага абласнога драмтэатра дома разам з пекінесам Сіндзі.**

Так атрымалася, што Мінскі абласны драматычны тэатр першы даў сцэнічнае жыццё гэтай п'есе. Як казаў М. Мацкевіч, хацелася, каб тэма пакінутых дзяцей, якая ўзнімаецца ў спектаклі, прымусіла задумацца кожнага з гледачоў пра тое, што адбываецца з намі, з нашым грамадствам. Пра тое, якія вырастуць нашы дзеці.

Увогуле, для Дзімы роля Кіма – гэта першы досвед яго сцэнічнага жыцця. Кім – настойлівы, мэтанакіраваны, клапатлівы. Аде Дзіма не атаясамлівае сябе са сваім героем цалкам.

– Ніхто не павінен быць поўнасцю падобны на іншага. Заўсёды трэба быць такім, які ёсць, – сцвярджае юны акцёр.

Пакуль Дзіма сядзіць без работы: толькі раз на месяц удзельнічае ў спектаклі. Калі будзе магчымасць, то хацеў бы сыграць камедыйную ролю, каб людзям было смешна. Ды і ёсць досвед на аматарскай сцэне: іграў ролю Шута ў камедыйнай пастаноўцы школьнага гуртка "Маска". Але цяпер у Дзімы іншыя клопаты:

– Самае галоўнае цяпер – школа. Вось і паступаць трэба, а не ведаю, куды. Яшчэ не вырашыў, кім быць, але з тэатрам, напэўна, жыццё не звяжу, – гаворыць ён.

Маці Дзімы, **Таццяна Свірыда**, дадае:

– Паспрабуем пайсці на праграмаванне ў Мінскі радыётэхнічны каледж. Калі не атрымаецца, пасля 11 класаў будзем паступаць у тэатральны. Мікалай Мацкевіч казаў, што падрыхтуе да ўдзелу ў розных тэатральных конкурсах, каб атрымаць рэкамендацыі да паступлення. З Дзімавай настойлівасцю можна ўсяго дамагчыся.

Мара ў Дзімы – камп'ютэр. На пытанне, якія людзі будуць праз сто год, Дзіма без затрымкі адказаў:

– Больш жорсткія, бо сёння жорсткасць сустракаецца на кожным кроку.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## «Кім»

Спектакль Мінскага абласнога драматычнага тэатра вызначаны як меладрама, але і аўтар, і рэжысёр часцяком выходзяць за межы жанру, калі дамінуючай нотай робіцца не стасункі Юліі і Каралёва (на гэтым, уласна, і павінна б трымацца меладраматычнасць), а лёс пакінутых дзяцей, наступствы чарнобыльскай катастрофы. Бадай, гэтая тэма нават пераважае ў спектаклі не толькі на ўзроўні тэксту, але і ў сцэнаграфічным вырашэнні матэрыялу, калі перад гледачом узнікае слайдавы ланцужок, які ўносіць дадатковую сэнсава-інфармацыйную нагрузку і стварае адпаведную атмасферу сцэнічнага дзеяння ад пралога да эпілога (мастак **Яўген Воўкаў**).

Сама назва спектакля і п'есы – "Кім" – вымагае гаварыць пра нешта большае, чым пра ўласна меладраму. Спектакль распавядае пра дзяцейсірот, пра іх жаданне выжыць і выстаяць у гэтым жорсткім свеце (яшчэ адзін герой – Каралёў – таксама быў дзетдомавец). У цэнтры – увага да блізкіх людзей, самаахвярнасць (гэта выразна відаць на ўзаемаадносінах Кіма і Юліі, іхнім стаўленні да Піні і Баранэсы). Гаворка ідзе і пра каханне, якое ратуе нашы душы ад чэрствасці, дае надзею на жыццё, як бог дае птушцы крылы для палёту.

Галоўнага героя – Кіма – сыграў маладзечанскі школьнік **Дзмітрый Свірыда**. Іншыя ролі выканалі артысты тэатра **Вікторыя Карасевіч, Аляксандр Пашкевіч, Ірына Кляпацкая, Барыс Донін**. Музыку напісаў кампазітар **Уладзімір Кандрусевіч**.

**Мікола ШАБОВІЧ.**

■ ПОГЛЯД ЖАНЧЫН

# Якія кветкі вам падабаюцца?



**Надзея Слабыш, школьніца, Маладзечна:**

– Гваздзікі. Некаторыя хлопцы пытаюцца ў дзяўчат, якія кветкі яны хацелі б у падарунак. Я лічу, што выбар кветак павінен быць самастойным.



**Ніна Бажко, загадчыца раённага аддзела ЗАГС:**

– Я люблю ружы. Кветкі – гэта адзнака кахання, увагі і павагі. Мне дораць кветкі, але ўсё радзей.



**Ларыса Шумская, прадпрымальнік, Маладзечна:**

– Гваздзікі. Ружы не люблю. Спадзяюся, што мой муж і два сыны не пакінуць мяне без увагі і павіншуюць.



**Таццяна Роўда, хатняя гаспадыня, Маладзечна:**

– Незабудкі. Яны прыгожыя, вясной з'яўляюцца першыя. Але муж, напэўна, як заўсёды, падарыць цюльпаны. Ружы наўрад ці.

# Ушанавалі Ядвігу Раздзялоўскую

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 і 2 сакавіка ўшанавалі памяць беларускай і польскай мастачкі Ядвігі Раздзялоўскай, з дня нараджэння якой мінула 100 гадоў.**

У першы дзень у выставачнай зале сярэдняй агульнаадукацыйнай школе мастацтваў адкрылася выстаўка твораў вучняў гэтай школы. Творы толькі аднаго жанру – нацюрморты. Менавіта нежывую прыроду вельмі таленавіта перадавала ў сваіх творах Я. Раздзялоўская.

Выступілі людзі, якія ведалі Ядвігу Іосіфаўну, тыя, што могуць назваць яе сваімі вучнямі. Старэйшы мастак горада **Кастусь Харашэвіч** расказаў, што пазнаёміўся з Ядвігай Раздзялоўскай у 1961 годзе. Яны з паўгода працавалі над адным творам, а потым арганізавалі студыю выяўленчага мастацтва пры Доме творчасці.

**Мікола Аўчыннікаў** у дзень выстаўкі прынес некалькі твораў Раздзялоўскай са сваёй калекцыі.

На наступны дзень людзі мастацтва сабраліся ля дома №5 па вуліцы Віленскай, дзе жыла мастачка. Каб падзяліцца ўспамінамі аб гэтым чалавеку і пакласці кветкі ля мемарыяльнай дошкі. Завяршыліся мерапрыемствы адкрыццём выстаўкі твораў Ядвігі Раздзялоўскай у музычным вучылішчы і вечарынай памяці.

**Юрый КАРПІЦКІ.**




**Ускладае кветкі мастак Мікола Аўчыннікаў.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

# Унутраная справа

## Непрыемнасцямі прыгразіў карэспандэнту «РГ» дырэктар «Зеніта»

**ВІЛЕЙКА. Работнікі завода "Зеніт" атрымалі незадоўга перад жаночым днём па маленькім слоічку мёду. На заводзе адключана цэнтральнае ацяпленне. Імкненне хоць як падтрымаць работнікаў у гэты цяжкі час прыцягнула ўвагу журналістаў.**

Па каментарый мы звярнуліся да дырэктара прадпрыемства **Анатоля Каравіцкага**. Кіраўнік без вялікай ахвоты гутарыў з карэспандэнтам. Асаблівае незадавальненне выклікала пытанне аб адключэнні цяпла на заводзе:

– Так, адключаецца. Але пісаць пра гэтае не трэба. Мне гэта абсалютна не трэба. На любую публікацыю трэба атрымаць маё «дабро». Убачу гэту публікацыю, будзеце мець непрыемнасці.

Далей Анатоль Каравіцкі ўбачыў у асобе журналіста пракурора:

– Вы мяне не дапытвайце. Вы не пракурор і я не збіраюся выступаць у прэсе. Любая публікацыя пра завод "Зеніт" – з майго дазволу. Я не абавязаны пра гэта гаварыць і я не разумею, навошта вам гэта патрэбна. У мяне няма жадання даваць інфармацыю.

– **Нам проста цікава.**

– Ёсць магчымасць – далі (мёд – рэд.). Проста трэба працаваць з калектывам. Не толькі палкай ганяць, але і дзякуй калі-нікалі сказаць. Нічога страшнага і звышнатуральнага. Акцыі спецыяльнай не было.

– **А ацяпленне з-за няўплаты адключылі?**

– Я не хачу ніякіх публікацый у вашай газеце.

– **Кажуць, каб сагрэць работнікаў, ватнікі выдалі?**

– Гэта унутраная справа завода "Зеніт". Ёсць 2 тысячы чалавек. Камусьці далі, а камусьці – не. Я павінен быць упэўнены, што кожны атрымаў. Каб пасля не было такога: Пятроўне далі, а Іванову – не.

На заводзе не першую зіму рабочыя мерзнуць, атрымліваюць мізэрныя зарплаты. Калісьці буйнейшы ў Еўропе вытворца фотаапаратуры пераўтвараецца ў буйнейшага даўжніка перад бюджэтам. Завод не расплачваецца за спажытую энергію, сувязь. Таму нават самае малое памкненне кіраўніцтва стварыць хоць нейкія ўмовы для добрай работы прыцягвае ўвагу газетчыкаў. Не ўсё ж блага гаварыць. На жаль, добра сказаць пра завод не атрымалася і на гэты раз. Аказваецца, газета ўзялася не за сваю справу. Трэба было журналістам спачатку дазволу спытацца.

**Сяргей ВАЎКОВІЧ.**

# Сувязісты зваляць апошні слуп

**ВІЛЕЙКА. Апошні раз даведнік раённай тэлефоннай сеткі выдаваўся ў Вілейцы ў 1996 годзе. Новы выйдзе ў наступным годзе. Ва ўсякім разе, так плануюць у раённым вузле электрасувязі.**

**– Чаму толькі ў наступным?** – пытанне да начальніка РВЭС Уладзіміра Місюля.

– Можна было б даведнік выдаць і цяпер, справіліся б, але ў канцы сёлетняга года ўвойдзе новая сучасная АТС на 6600 нумароў. Выканаем заяўкі на тэлефанізацыю. Старая, на 4000 нумароў, будзе дэмантаваная. Гэтыя змены і будуць улічаны ў новым даведніку.

**– Чуў, што існуе практыка пастаўляць у раённыя цэнтры былыя ў карыстанні станцыі з больш буйных гарадоў, у якія, у сваю чаргу, пастаўляецца сучасная апаратура. Гэта так?**

– Ні ў якім выпадку. Толькі новая станцыя з усімі відамі дадатковых паслуг, будзе пабудаваная лічбавая сетка, дадзім "лічбу" і на вёску. Іншая справа, што на сяле застануцца пакуль старыя станцыі. Але гэта справа часу, лічбавая сувязь на вёсцы ўсё роўна будзе.


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

**Сёлета, – гаворыць начальнік Вілейскага раённага вузла электрасувязі Уладзімір Місюль, – вілейскія сувязісты ўвядуць у эксплуатацыю новую тэлефонную станцыю, якая дазволіць вырашыць многія праблемы. У тым ліку – пазбавіцца ад паветраных тэлефонных ліній у горадзе.**

Магчыма, аддадзім некаторыя часткі старой станцыі ў Любань, Ілью, каб павялічыць ёмістасць вясковых АТС, але большая частка станцыі будзе проста спісаная.

2000 нумароў з новай станцыі будзе "вынесена" у пасёлак Касманаўтаў, 500 – у Макаўе і Ізбіно.

**– Самая вострая сітуацыя па ўстаноўцы тэлефонаў, яна дзе?**

– Усюды, практычна, аднолькавая. 2 з паловай тысяч заяў на ўстаноўку. Калі фарміравалі летась заказ на новую станцыю, то зрабілі гэта па колькасці заяў.

**– 6600 мінус чатыры тысячы...**

– Так, дзве з паловай, ды спараныя, паралельныя, вячэрнія тэлефоны адыдуць. Міжгародняя сувязь будзе лічбавая, праз валакно. Тагальны набор. Новыя паслугі: аўтадазвон, будзільнік, пераадрасацыя, канферэнцыя, скарочаны набор...

Увод новай станцыі дазволіць зваліць у горадзе апошні слуп з тэлефоннымі праводамі. Яна дасць магчымасць прыбраць апошнія тэлефонныя правады ў Вілейцы, якія, я згодны з начальнікам РВЭС, не ўпрыгожваюць горад. На сяле застаецца яшчэ 190 кіламетраў паветраных ліній тэлефоннай сувязі і 400 кіламетраў ліній радыёфікацыі.

Але паветраныя лініі – не самае страшнае. Страшней тое, што дэфіцыт раённага бюджэту пастаянна адбіваецца на запазычанасці бюджэтных арганізацый перад сувязістамі. У даўжніках перад сувяззю аддзел унутраных спраў, раённы аддзел адукацыі, медыцына, падатковая інспекцыя, райвыканкам, пажарныя, аддзел культуры, вучылішчы... Не размічваюцца пазабюджэтнікі: калгасы, саўгасы. Пастаянны даўжнік "Зеніт". У гэтым самым спісе хлебазавод, аўтарамзавод.

Леташні год раённая сувязь спрацавала са 124 мільёнамі 400 тысячамі стратаў. Страты, вядома, плануюцца і пакрываюцца са сродкаў Белтэлекама. Ёсць жа буйнейшыя гарады, дзе сувязь больш насычаная, а ад таго і рэнтабельная. Маладзечна, Барысаў, абласныя цэнтры ніколі не працавалі стратна. А такім гарадам, як Вілейка, проста застаецца чакаць сваёй чаргі на новае абсталяванне, пашырэнне ёмістасці станцый. Менавіта з-за гэтай прычыны больш за 26 гадоў давялося чакаць Вілейцы замены цэнтральнай станцыі. Першая яе чарга была ўведзеная ў 1976 годзе. У 2002 годзе зноў настала чарга Вілейкі.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

# Пэйджынгавыя паслугі таннеюць

**МАЛАДЗЕЧНА. Першы пэйджэр у горадзе з'явіўся 5 год таму. Тады ён каштаваў каля 150 долараў. Да таго, кліент плаціў каля 15 долараў за падключэнне, столькі ж была абаненцкая плата ў месяц.**

Цяпер жа абаненцкая плата складае ад 6 тысяч рублёў, пэйджэр каштуе ад 50 да 100 тысяч. У горадзе адзіную апаратарскую службу мае аддзяленне "Радыёпэйджа" – Маладзечанская тэлекамунікацыйная кампанія (МТК). Але прадпрыемства займаецца не толькі пэйджынгавымі паслугамі. Асноўны від дзейнасці – вытворчасць перадатчыкаў пэйджынгавай сувязі. Дырэктар МТК **Уладзімір Чапыжэнка** гаворыць, што для іх галоўная мэта – зрабіць пэйджынгавыя паслугі максімальна даступнымі. Цяпер імі карыстаюцца каля 400 абанентаў у Маладзечне, Вілейцы і Смаргоні. Бліжэйшымі рубяжамі У. Чапыжэнка бачыць 1000 кліентаў у Маладзечне, і хаця б па 200 – у астатніх двух гарадах. Магчыма, неўзабаве сетка МТК расшырыцца – сёлета неабходнае абсталяванне плануецца ўстанавіць і ў Мядзеле.

Намеснік дырэктара МТК **Сяргей Кузняцоў**:

– Раней пэйджэр быў сапраўды дарагім задавальненнем. Але час ідзе, на рынку з'явілася некалькі кампаній, і канкурэнтная барацьба зрабілі сваю справу. Цэны сталі даступнымі.

Яшчэ адным фактарам даступнасці пэйджэра стала развіццё інтэрнета. Усе новыя паслугі звязаныя менавіта з ім. Цяпер можна пасланць паведамленне з дамашняга камп'ютэра, не карыстаючыся паслугамі аператара.

Яшчэ адна навінка – "Віртуальны пэйджэр". Вы можаце адкрыць электронную скрыню ў інтэрнэце. Калі да вас будзе прыходзіць пошта, на ваш пэйджэр прыйдзе адпаведнае паведамленне з указаннем імя адпраўшчыка і тэмы паведамлення. І вы адразу уваходзіце ў інтэрнет і чытаеце пошту.

– Гэта вялікая эканомія нерваў і грошай, – гаворыць Уладзімір Чапыжэнка. – Вы будзеце дакладна ведаць, калі да вас прыйшло пісьмо. Нават, калі ў вас няма пад рукой камп'ютэра, можна пайсці ў інтэрнет-клуб і забраць электронную пошту. Нашы кліенты могуць бясплатна карыстацца гэтай паслугай.

Сувязь павінна прыносіць новыя магчымасці чалавеку. Задача кожнай паслугі – даць гэтыя магчымасці. А наша задача – даць такі сервіс, каб чалавек не пашкадаваў тых грошай, якія ён заплаціў як абаненцкую плату. Пэйджэр – (ад англійскага – page – старонка) павінен стаць для чалавека кішэннай старонкай з важнай для яго інфармацыяй.

**Юрый КАРПІЦКІ.**


**Пэйджэр – лепшы сябар...** Фота IREX/ProMedia.

# Новыя паслугі электрасувязі

У канцы 2001 года рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне "Белтэлекам" увяло ў эксплуатацыю абсталяванне "Інтэлектуальнай платформы", у аснове якой ляжыць сучасная камп'ютэрная тэхналогія. Гарманічнае спалучэнне камп'ютэрных магчымасцяў у кіраванні сеткамі сувязі дало жыццё прынцыпова новаму віду паслуг электрасувязі. Першую паслугу на базе ІП – "Інтэрактыўнае апытанне" – РА "Белтэлекам" рэалізавала ў Рэспубліцы Беларусь у верасні 2001 года. З 1 лістапада з'явіліся 3 новыя паслугі, якія карыстаюцца вялізнай папулярнасцю ва ўсім свеце: "Сервісныя тэлефонныя карты", "Картачны рахунак" і "Абаненцкі рахунак".

"Інтэрактыўнае апытанне" прызначанае для зносінаў з вялікай колькасцю людзей у рэальным маштабе часу. Яно дазваляе праводзіць па тэлефоне сацыялагічныя апытанні, маркетынгавыя даследаванні або апытанні грамадскай думкі. У тэле- або радыёперадачы, у газеце, часопісе ці на Інтэрнет-старонцы задаецца пытанне і прапануюцца некалькі варыянтаў адказу на яго. Кожнаму з варыянтаў адпавядае свой нумар тэлефона. Для таго, каб выразіць сваю згоду з якімсьці адказам, слухачу або гледачу дастатковa патэлефанаваць па адпаведным нумары ў аб'яўлены час прыёму званкоў. Усе званкі, што паступаюць, імгненна падлічваюцца. Па дамоўленасці з заказчыкам, вынікі апытання могуць быць размешчаныя на серверы РО "Белтэлекам" або на серверы заказчыка.

### Сервісныя тэлефонныя карты

У продаж паступілі сервісныя тэлефонныя карты (СТК) наміналам 2000 і 4000 тарыфных адзінак. Па знешнім выглядзе яны нагадваюць звычайныя таксафонныя карты, аднак фізічнага ўдзелу ў тэлефонным злучэнні не прымаюць, гэта значыць, такую карту нікуды не трэба ўстаўляць. З дапамогай СТК можна званіць з любога тэлефона, а таксама з таксафона са спецыяльнай маркіроўкай. Маючы такую карту, можна здзяйсняць міжнародныя ці міжгароднія размовы з дамоў адпачынку або санаторыяў, гасцініц, па тэлефоне суседзяў, па службовых тэлефонах. Пры гэтым уладальніку тэлефона не будзе выстаўляцца рахунак за такія перагаворы. Карты СТК прадаюцца ў індывідуальнай упакоўцы ў камплекце з правіламі карыстання. На кожную карту нанесены індывідуальны нумар (пін-код), які схаваны пад ахоўнай паласой. Пасля куплі карты ахоўны слой здымаецца, а пін-код, што адкрыецца, выкарыстоўваецца ў працэсе здзяйснення набору нумара. Купляючы СТК, абанент быццам бы адкрывае сабе банкаўскі рахунак, з якога ў працэсе размоў спісваюцца "прагавораныя" сумы.

### Картачны рахунак

Гэтая паслуга аналагічная "СТК", толькі замест карты абанент атрымлівае запячатаны канверт з пін-кодам. Для гэтай паслугі сума авансу вызначаная коштам 20000, 40000 і 80000 тарыфных адзінак. Аплату паслугі ў дадзеным выпадку можна рабіць як за наяўны, так і безнаяўны разлік.

### Абаненцкі рахунак

Паслуга "Абаненцкі рахунак" у магчымасцях і парадку атрымання аналагічная папярэдняй. Асноўнае адрозненне – адсутнасць пін-кода: у дадзеным выпадку паслуга прадастаўляецца толькі з пэўнага нумара тэлефона, які і будзе з'яўляцца "допускам" да званка праз "Інтэлектуальную платформу".

Які агульны парадак атрымання паслуг "СТК", "Картачны рахунак", "Абаненцкі рахунак"? Для гэтых паслуг выдзелены адзіны для рэспублікі спецыяльны тэлефонны нумар 8-805-100-4242. Абанент набірае гэты нумар і чакае адказу апаратара, пасля чаго паведамляе свой пін-код, горад, краіну і нумар абанента, якога выклікае. Абаненты АТС-3, якія выкарыстоўваюць танальны рэжым набору, набіраюць свой пін-код з клавіятуры тэлефона і далей – нумар свайго абанента. У гэтым выпадку дапамогу аказваюць галасавыя падказкі сістэмы.

Галоўная перавага паслуг "СТК" і "Картачны рахунак" – гэта магчымасць здзяйсняць тэлефонныя перагаворы з любога тэлефона на тэрыторыі рэспублікі, не прычыняючы нязручнасцяў уладальніку па частцы наступнай аплаты.

Выкарыстоўваць гэтыя паслугі зручна грамадзянам, якія не маюць тэлефонаў і здзяйсняюць міжгароднія размовы з суседскіх тэлефонаў. Мэтазгодна карыстацца такімі паслугамі і асобам, камандзіраваным у іншыя населеныя пункты. Калі такая асоба пражывае ў гасцініцы абласнога цэнтра, дзе ў нумары ёсць тэлефон, але няма доступу да міжгароднай сеткі, то можна, набраўшы мясцовы тэлефонны нумар "Інтэлектуальнай платформы", зрабіць міжгароднюю злучэнне. Выгадныя такія паслугі, напрыклад, студэнтам, што пражываюць на прыватных кватэрах з тэлефонам. Што тычыцца паслугі "Абаненцкі рахунак", то яе можна выкарыстоўваць сем'ям, што пражываюць у адной кватэры, або абанентам, якія маюць паралельныя тэлефоны. Прымяняць гэтую паслугу можна, напрыклад, і ў такой сітуацыі: дзеці, што пражываюць за межамі рэспублікі, аплачваюць паслугу "Абаненцкі рахунак" на тэлефон сваёй састарэлай маці, якая можа тэлефанаваць ім без боязі несці вялікія выдаткі з маленькай пенсіі. Прычым, паслуга сапраўдная на працягу года з дня аплаты.

Другая важная перавага ўсіх гэтых паслуг – гэта 30-секундны інтэрвал тарыфікацыі. Калі міжгародняя размова доўжылася, напрыклад, 25 секунд, то яе кошт будзе роўны 0,5-хвіліннаму тарыфу, у адрозненне ад правілаў, што існуюць на сетках агульнага карыстання, дзе такая размова будзе прыраўнаваная да 1-хвіліннай. Гэтая перавага выгадная тым грамадзянам, каму даводзіцца тэлефанаваць часта і гаварыць каротка.

Яшчэ адна перавага новых паслуг – больш танны тарыф для званкоў за межы рэспублікі і на мабільныя тэлефоны. Акрамя гэтага, у сувязі з папярэдняй формай аплаты тэлефонных перагавораў, дадаткова не бярэцца сума за крэдыт, гэта значыць, 5% ад кошту размовы ўнутры РБ і кошт 0,5-хвілінай размовы пры выхадзе за межы Беларусі.

Важнай асаблівасцю для карыстальнікаў такіх паслуг з'яўляецца таксама наяўнасць льготнага часу, як і для абанентаў сетак агульнага карыстання.

І ў заключэнне: з 15 лютага ўладальнікі СТК, картачнага рахунку і абаненцкага рахунку могуць карыстаць паслугамі ІР-тэлефаніі. Тарыф за 1 хвіліну з абанентам у Маскве і Маскоўскай вобласці складае 200 тарыфных адзінак (226 руб.) кругласутачна. Гэта на 34% танней, чым пры традыцыйнай тэлефоннай сувязі. Праўда, якасць злучэння некалькі горшая, але цалкам здавальняючая.

Які кошт паслуг? Кошт сервісных тэлефонных картак па 2000 т. а. – 2580 рублёў, па 4000 т. а. – 4840 рублёў. Кошт паслугі "Картачны рахунак" і "Абаненцкі рахунак" 20000 т. а. – 27120 рублёў, 40000 – 54240 рублёў.

Набыць "СТК" можна пакуль толькі на перагаворных пунктах Маладзечанскага вузла электрасувязі па вуліцы Прытыцкага, 18 або Вялікім Гасцінцы 58-А, а заключыць дагаворы на карыстанне картачным або абаненцкім рахункам можна, калі патэлефанаваць папярэдне па нумары 71699.

**Ігар ТАЎКАЧОЎ,**
**вядучы інжынер**
**Маладзечанскага РВЭС.**

## Некалькі інструкцый, што не трэба рабіць з пэйджэрам:

Адкалупваць на ім кнопкі – яны сапраўды адкалупваюцца, але нічога цікавага пад імі няма, не было, і, хутчэй за ўсё, не будзе;

Частаваць пэйджэр півам, гарэлкай, джынам і іншымі алкагольнымі і безалкагольнымі напіткамі – яго рэакцыя непрадказальная;

Спрабаваць весці з пэйджэрам размовы свецкага і не свецкага характару – ён эгаіст і чуе толькі сябе;

■ ГІСТОРЫЯ ЎЗНІКНЕННЯ 8 САКАВІКА

# Гэта наш дзень, сяброўкі!

Вось і прыйшла вясна. Павесялелі жанчыны напярэдадні свята, спахмурнелі мужчыны ў прадчуванні хуткага спусташэння сваіх кішэняў, замітусіліся прадаўцы кветак, ювелірных і кандытарскіх вырабаў, парфумерыі. Тэлебачанне і радыё ў гэтыя дні вяшчае, здаецца, толькі для жанчын. А "вінаватая" ў гэтым прыгожая палова чалавецтва са сваім 8 Сакавіка.

У 1910 годзе на другой міжнароднай канферэнцыі сацыялістак у Капенгагене па прапанове Клары Цэткін прынялі рашэнне аб святкаванні 8 Сакавіка як дня міжнароднай салідарнасці жанчын у барацьбе за сацыяльнае і палітычнае раўнапраўе. Упершыню гэтыя святы правялі ў 1911 годзе ў Германіі, Даніі, Аўстрыі і Швейцарыі. А ў 1913 годзе – і ў Расійскай імперыі.

Але традыцыя святкавання дня жанчын прыйшла значна раней. У Старажытным Рыме напачатку сакавіка адзначалася свята матраналіі. У гэты дзень матроны – гэта свабоднанароджаныя замужнія жанчыны – атрымлівалі падарункі ад сваіх мужчын. Рабыням таксама даставаліся падарункі, але менш каштоўныя. Акрамя гэтага, гаспадыня дома ў гэты дзень вызваляла нявольніц ад працы.

А яшчэ раней у тым жа Рыме 8 сакавіка на плошчу выводзілі для ўсеагульнага асмяяння жанчын, якія займаліся самай старажытнай прафесіяй.

Але свята ёсць свята, і, нягледзячы ні на што, гэта наш дзень. Віншую вас, жанчыны!

**Кацярына КЛЯМЯЦІЧ.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Брыльянтавы палец

Адбыўся гэты выпадак у мае студэнцкія гады ў самым пачатку 90-х. Тады ў краіне буяў таварны крызіс, а ў студэнтаў дык яшчэ, як і заўсёды, і грашовы крызіс. Таму шмат хто з нас падпрацоўваў. Некалькі студэнтаў уладкаваліся працаваць на дражджавы камбінат, што знаходзіцца ў Мінску якраз насупраць знакамітага "Крышталя". Дзяржцана дражджэй тады была 3 рублі за кілаграм. Але ў дзяржгандлі гэтага тавару было не знайсці, таму аматары-хімікі з народу выхопвалі з рукамі і за 5 рублёў. Вось і выносілі дрожджы на прахадную, як толькі хто мог.

І вось аднойчы сядзеў на прахадной дзядок-"божы адуванчык", якому акрамя ўласнай хуткай пенсіі ні да чаго іншага не было ніякай справы. Ведаючы гэта, рабацягі затарыліся, не шкадуючы сумак. У тым ліку і адзін студэнт. Натрамбаваў у пакет тавару мо кілаграмаў з 10. Усё каціласся, як па масле. Прайшлі "вяртушку", дзядок толькі лыпнуў вачыма, маўляў, "а мне ўсё роўна". Пайшлі па калідоры на выхад. І тут – бяда!

Адзін канец калідора перакрыла міліцыя, другі – супрацоўнікі адміністрацыі завода. Выспявала сітуацыя пад назвай "хавайся ў бульбу". Але студэнт – ён і ў Афрыцы студэнт, і на дражджах студэнт. Карацей кажучы, гэты хлопец павесіў свой пакет на выцягнуты палец і, памахваючы ім, прастаяў хвілін 40, пакуль ішла аблава. Ніхто з правяраючых нават і падумаць не мог, што ў сумкы на выцягнутым пальцы магло ляжаць нешта сур'ёзнае. Пасля гэтага наш студэнт хадзіў на лекцыі з перабінтаваным "галоўным рабочым органам". А астатнія жартавалі: "Ну, каліся, колькі ж дражджэй ты туды засунуў?"

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 95 ГОД ТАМУ

# Колькі выпіваюць у Хаценчыцах

**Хоценчыцы** Вилейск. у.

Ў нашай валасьціи ёсьць две манапольки; у их выпиваецца гарэлки две тысячы трыста вёдзер (2300) ў год и каштуе гэтая гарэлка восемнаццать тысячоў чатырыста руб. Шмат чаго добраго можна было бы зрабиць за гэтыя грошы, а тым часам з гарэлки больш беды ды гора прыбывае.

Мацей

**Першая Беларуская Газэта з Рысунками «Наша нива». №10 ад 9 марца 1907 г**







■ КРЫЖАВАНКА

**Ірына САХАЦКАЯ.**



1. Перыядычнае выданне інфармацыйнага характару. 2. Сталіца Турцыі. 3. Буйная драпежная марская рыба. 4. Урач, спецыяліст па хваробах вачэй. 5. Самаходная машына для перамяшчэння, прывядзення ў дзеянне сельскагаспадарчых і іншых прылад. 6. Беспілотны лятальны апарат з рэактыўным рухавіком. 7. Тое, што з'яўляецца падабенствам чаго-небудзь. 8. Агародная расліна. 9. Верхняе хатняе або рабочае адзенне. 10. Геадэзічны і астранамічны вугламерны інструмент. 11. Жорсткі, дэспатычны чалавек. 12. Салодкі сок, які выдзяляецца кветкамі меданосных раслін. 13. Рэжучы інструмент для апрацоўкі металу, дрэва. 14. Птушка атрада курыных. 15. Малюнак Бога ў выглядзе партрэта. 16. Водбліск заходу сонца на небе. 17. Закончаная частка драматычнага твора, спектакля.

**Літара "Р":**

1. Вялікі і прыгожы па архітэктуры будынак. 2. Вязкая маса з мукі, замешанай на вадзе, малацэ. 3. Смеласць, рашучасць. 4. Вадкасць, насычаная варам таго, што ў ёй варылася. 5. Масавае забойства, крывапраліцце. 6. Скамянелая смала жоўтага колеру. 7. Скульптар (уст.).

**Літара "Г":**

1. Доўгая канаўка на паверхні зямлі, праведзеная плугам у час ворыва. 2. Падсціл з галля, жэрдак, на які кладуць стог. 3. Невялікая марская прамысловая рыба. 4. Ядомы грыб. 5. У краінах Усходу: грамадская група, адасобленая паходжаннем, родам заняткаў.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 9**

**Па гарызанталях:** 3. Батат. 8. Дэсерт. 9. Азбест. 11. Сыр. 13. Эра. 14. Гамеастаз. 16. Пенал. 17. Самум. 19. Грыжа. 22. Соль. 23. Фрак. 24. Акапі. 25. Гілея. 26. Ганг. 29. Вата. 30. Клерк. 31. Атака. 33. Таўро. 34. Альбатрос. 35. Бра. 37. Баа. 38. Армада. 40. Крэгер. 41. Нарач.

**Па вертыкалях:** 1. Бант. 2. Гана. 4. Сэр. 5. Метал. 6. Абцас. 7. Эсэ. 8. Дызель. 10. Трыумф. 12. Парыж. 14. Галактыка. 15. Заабентас. 18. Бохан. 19. Гапак. 20. Аміяк. 21. Карта. 27. Гітара. 28. Севан. 29. Варвар. 32. Алмаз. 33. Тодэс. 36. Ара. 37. Бей. 39. Абат. 40. Краб.



## Гараскоп 11 – 17 сакавіка

**Авен** (21.03–20.04)

Удалы перыяд. Паспяховыя будуць паездкі, новыя знаёмствы. Будзеце мець магчымасць для кардынальных рашэнняў у справах. Перыяд садзейнічае і атрыманню неабходных ведаў. У сярэдзіне тыдня цалкам раскрыецца ваш талент арганізатара.

**Цялец** (21.04–21.05)

Не варта брацца за новыя справы і праекты. У сям'і – самыя гарманічныя за апошнія месяцы ўзаемаадносіны, якія прынясуць вам сапраўднае задавальненне.

**Блізняты** (22.05–21.06)

Можна смела пускацца ў рызыкоўныя справы, заводзіць новыя знаёмствы і планаваць дзейнасць на далёкую перспектыву. Гэты перыяд дасць вам магчымасць сумесна з калегамі наладзіць якасна новыя партнёрскія адносіны.

**Рак** (22.06–23.07)

Верагодныя сутычкі з людзьмі, якія побач з вамі, але да канфліктаў гэтыя рознагалоссі не прывядуць. Памятайце, што дамагацца пастаўленых мэтаў у адзіночку цяжэй, чым разам з партнёрамі і калегамі.

**Леў** (24.07–23.08)

З'явіцца жаданне аказаць пасільную дапамогу навакольным. Шмат ідэй па паляпшэнні бізнесу або вытворчасці. Трэба заняцца сваім домам, больш дарыце ўвагі каханым.

**Дзева** (24.08–23.09)

Наступіць выгадная прапанова, якая дапаможа паправіць матэрыяльнае становішча. Паспяховыя будуць усе дзелавыя кантакты, але ўсялякія рашэнні неабходна прымаць самастойна. Удача ў камерцыйнай, прадпрымальніцкай і фінансавай дзейнасці.

**Шалі** (24.09–23.10)

Ёсць рызыка быць падманутымі партнёрамі ў камерцыйных справах, таму, калі гэта магчыма, адкладзіце дзелавыя аперацыі на больш позні тэрмін. Магчыма, вам давядзецца заняцца пошукам новых крыніц даходу.

**Скарпіён** (24.10–22.11)

Верагоднасць падману ў партнёрскіх адносінах і канфліктаў са сваякамі. Пастарайцеся пазбягаць сустрэч з начальствам, бо і тут магчымыя рознагалоссі. Не рабіце неабдуманых учынкаў, пацярпіце.

**Стралец** (23.11–21.12)

Тыдзень, спрыяльны для завяршэння спраў, звязаных з вучобай і навуковай сферай. Атрымаеце задавальненне ад добра зробленай работы, а дамагчыся станоўчых вынікаў у ёй дапамогуць парады блізкіх і сям'і. Канец тыдня правядзіце дома.

**Казярог** (22.12–20.01)

Супрацьпаказаны фінансавы авантурызм. Грошы пакуль што прытрымайце да лепшых часоў. Перыяд спрыяльны для дзелавых паездак і планавання спраў.

**Вадалей** (21.01–19.02)

Паспяховае вырашэнне любой пачатай справы. Магчымы нечаканы прыбытак. У многіх Вадалеяў спрыяльныя акажуцца кантакты з супрацьлеглым полам. Добры час для добраўпарадкавання свайго дома.

**Рыбы** (20.02–20.03)

Трэба шмат і плённа працаваць, прычым на службе высокая верагоднасць канфліктных сітуацый. Варта перацярпець крыўды і не скандаліць, таму што гэта можа дрэнна адбіцца на далейшых адносінах.

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж 8910 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. № 10 (359) 8.03.2002. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 794. Падпісана ў друк у 13.00 6.03.2002

Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.
E-mail: region_news@irex.minsk.by
http://regionnews.promedia.minsk.by

ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ
Маладзечна: Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. 69667, 53841.
Вілейка: вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». Тэл. 53935, 55284.
Смаргонь: вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». Тэл. 33077, 34353.

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»